# ПАГОНЯ

**Адрэс рэдакцыі і канторы:**
Вуліца Адама Міцкевіча, 13-а.
Тэлефон № 23.

Рэдакцыя адчынена што дзень ад 1—2 гадз.
Кантора адчынена што дзень ад 8—3 гадз.

**ГРАМАДЗКАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ЧАСОПІСЬ.**

ВЫХОДЗІЦЬ ЧАСОВА РАЗ У ТЫДЗЕНЬ.

**Падпіска каштуе:**
на 10 № № ўпярод — 10 зал.
„ 5 „ „ — 5 „
Кошт асобнага № — 1 „

**Рукапісы**
не прынятыя да друку назад не вертаюцца; прынятыя аплачываюца па погляду Рэдакцыі.




**№ 1.** | **Коўна, Чацьверг, 29 ліпеня 1920 году.** | **Год І-шы.**

## Ад рэдакцыі.

Выпускаючы № I „Пагоні“, Рэдакцыя маніцца запоўніць тую прарэху, якая, праз увесь час будаўніцтва Літоўскага Гаспадарства, вельмі адчувалася ўсімі беларусамі, як уцёкшымі ад польскае акупацыі і польскіх турмаў, так і дзе-недзе пасяліўшыміся па ўсей Літве. Не разумеючы літоўскай мовы, беларусы, змушэны былі чытаць газэты ў большзразумелай ім польскай мове: аб Кракаве, Дамброві і Вісьле... і зусім не запазналіся з іх ні аб літоўскім дзяржаўным будаўніцтве, ні аб аспэрацыях літоўскага народу, а таксама, ня меючы сваей газэты, не запазналі літоўскага народу у яго нацыянальных асобнясьцях і патрэбах, самі-ж раскінуліся ва ўсе бакі, ня ведаючы каго трымацца і чаго прытрымовывацца. Вось дзеля таго нехай ўсе беларускіе грамадзяне Літвы згуртуюцца каля гэтай беларускай газэты „Пагоня“ якая павядзе да незалежнасьці нашай супольнай з літоўскім народам Бацькаўшчыны.

**Рэдакцыя.**

◆◆◆◆◆

*Коўна, 28 Ліпеня.*

Дзень 12 ліпеня 1920 году наўсёгды застанецца памятным народам Літвы. У гэты дзень заварта мірная ўмова памеж Літвой і Савецкай Расеяй.

Гэтай умовай нішчацца вякавыя грані, аддзеляючыя адну частку Літвы ад другой і жыхары Віленшчыны і Горадзеншчыны узноў вярнуцца пад сень літоўскага сьцягу. Узноў васкрэсае даўно мінуўшы час, калі пры слаўным Вітаўце мірны селянін знайходзіў абарону ад ўражых хцівых рук чужаземцаў і на бярагох Вільлі і Нёману суджэна васкрэснуць новаму жыцьцю.

Доўгія і цяжкія цярпеньня выпалі на долю нашай гаратной Бацькаўшчыны.

Пад пыткай царскіх апрычнікаў гнуўся цярпеліва хрыбёт яе сыноў, пад цяжкім ботам нямецкіх полчышчаў стагнала родная зямелька і ўсё багацьця палёў, моцна палітых потам працавітага селяніна, вывазілася з роднага краю на харчаваньне чужога і варожага яму народу.

Але ўсе гэтыя учынкі былі нічым у параўнаньню з мукамі і страданьнем ад польскай акупацыі. Ні царскія каты, ні нямецкія салдаты не былі здольны на такія вымудраваныя жосткасьці, на гэткае наглае бязтыдцтва, якое польскія культуртрэгэры выявілі ў сваё кароткае ўладычэства.

Крывавыя хрыбты Віленскіх і Горадзенскіх грамадзян, сьлёзы і стогны іх абражаных жонак і дачок і руіны іх зьнішчанага жыльля сьведчуць аб „польскай цывілізацыі“. Для беларускіх жыхароў Горадзеншчыны і Віленшчыны пачнецца новая эра; жыцьцё яго войдзе у новае русла. 12-га ліпеня г. г. Расея наўсёгды адмовілася ад сваіх дзяржаўных правоў, больш як сто гадоў істнаваўшых над Віленскай і Горадзенскай зямлямі і урачыста прызнала гэтыя землі непадзельнай належнасьцьцю Літоўскай Рэспублікі.

З гэтага дня ўсё насяленьне Віленшчыны і Горадзеншчыны набывае права літоўскага грамадзянства.

Чаго чэкаць беларускаму насяленьню ад новага палітычнаго палаженьня?.

У якія формы выльецца палітычнае і асабістае жыцьцё новых літоўскіх грамадзян?.

Чы ёсьць падстава апаскі, што новая Дзяржава будзе робіць старыя памылкі і пад Літоўскім Штандарам паўторацца беззаконьня і уціск мінуўшых дзён? Адказ на гэта пытаньне дае Канстытуцыя Літоўскай Дзяржавы. Літва ёсьць Дэмакратычная Рэспубліка Гэта азначае, што вярхоўным кераўнікам краю зьяўляецца сам народ, выяўляючы сваю дзяржаўную волю праз выбарных сваіх предстаўнікоў, складаючых Устаноўчы Сойм. Сойм ведае ўсей поўнатой законадаўчай ўлады. Ён выдае і зацьверджае законы, керуючыя краем і зьяўляецца выразьнікам суверэнных правоў Літвы. (2 § час. Канст. Літ. Дзярж.) Усе грамадзяне Рэспублікі, бэз рожніцы нацыянальнасьці, рэлігіі і заможнасці, роўны прад законам. Кожнаму грамадзяніну гвaрантуецца недатычнасьць асобы, маентнасьці і жыльля, г. з. такая *свабада ня можэ быць аграні̄чэна іначэй, як на падставе пастанаўленьня законнай кампэтэнтнай улады, дзейснуючай, у свой чарад, толькі на падставе істнуючых законаў.* Беларускае населеньня Віленшчыны і Горадзеншчыны да гэтага часу не адведала яшчэ ўсей абаяцельнай моцы і благатворнай дзейснасьці рэспубліканскага распарадку. Яно знала толькі ліцэпрыятны праізвол царскага рэжыму і бэззаконьня акупацыйных ўлад. Але і для Вас, браты беларусы, ўрэшце, прабіла галзіна звальненьня ад векавога гнёту і з 12 ліпеня г. г. вы сталі *вольнымі грамадзянамі вольнай Літоускай Рэспублікі,* нашай супольнай з літоўскім народам Бацькоўшчыны.

◆◆◆

## Часовая Канстытуцыя Літоўскаго Гаспадарства,

прынятая Устаноўчым Соймам
13 чэрвеня і апублікаваная у газ. „Летува“
13 чэрвеня.

I.

1. Літоўскае Гаспадарства ёсьць Дэмакратычная Рэспубліка.
2. Устаноўчы Сойм зьяўляецца выразіцелем суверэных праў Літвы.
3. Усе, меўшыя чыннаьсць да абвешчэньня гэтай Канстытуцыі, законы, пасколькі яны не супярэчаць ей, застаюцца ў моцы.
4. Устаноўчы Сойм выдае законы, раціфікуе ўмовы з другімі Гаспадарствамі, зацьверджае Дзяржаўны Бюджэт і дагледае за выкананьнем законаў.
5. Выканаўчая улада даручаецца Прэзыдэнту Рэспублікі і Габінэту Міністраў.
6. Права заканадаўчай ініцыятывы прыналежыць Устаноўчаму Сойму і Габінэту Міністраў.

II.

7. Прэзыдэнта Рэспублікі выбірае Устаноўчы Сойм.
8. Прэзыдэнт Рэспублікі:
   а) запрашае Старшыню-Міністраў, даручае яму злажыць Габінэт Міністраў зацьверджае ўжо зложэны і прыймае дымісыю Габінэту Міністраў.
   б) выбірае і назначае Дзяржаўнаго Кантралера;
   в) Прэдстаўляе Рэспубліку;
   г) Назначае прэдстаўнікоў і прыймае акрэдытаваных прэдстаўнікоў чужых дзяржаў.
   д) Назначае вышэйшых ваеных і цывільных чыноў;
   е) публікуе законы;
   ж) карыстаецца правам памілаваньня.
9. Часова, пакуль будзе выбран Прэзыдент, яго абавязкі спаўняе Старшыня Устаноўчага Сойму.
10. Пад усімі актамі Прэзыдэнта Рэспублікі павінен быць подпіс Старшыні Міністраў, чы адпаведнага Міністра.

III.

11. Габінэт Міністраў працуе і адпаведае салідарна.
12. Габінэт Міністраў адпаведзен прад Устаноўчым Соймом. Калі астатні выразіць яму недаверье—Габінэт падае ў дымісыю.
13. Увайшоўшыя ў Габінэт Міністраў Члены Устаноўчага Сойму не перастаюць быць членамі Устаноўчага Сойму,

IV.

14. Дзяржаўны Кантралер адпаведзен за сваю чыннасьць прад Устаноўчым Соймам, а калі астатні выразіць яму недаверье—Кантралер падае ў дымісыю.

V.

15. Усе грамадзяне Літвы, бэз рожніцы полу, рэлігіі і нацыянальнасьці раўны прад законамі; сасловій і тытулоў німа.
16. Усім грамадзянам Літвы гвaрантуецца недатычнасьць асобы, жылішча, карэспандэнцыі, свабода совесьці, друку, слова, застрэўкаў, сходаў і грамад. Сьмяротная казнь адменяецца.

У в а г а I. У ваенны час, а так сама дзеля паперэджэньня (устраненьня) грозячэй Гаспадарству небязпекі, канстытуцыйныя гвaрантыі могуць быць прыастаноўлены.

У в а г а II. У мамэнт перарыву пасядзэньняў Сойму, канстытуцыйныя гвaрантыі могуць быць прыастаноўлены выпаўняючэй уладай, але не пазьней, як праз тры дні, павінен быць сабран Устаноўчы Сойм, які і рэшае пытаньне аб далейшай прыастаноўцэ канстытуцыйных гвaрантый.

VI.

17. Асоба члена Ўстяноўчага Сойму недатычна; арэштаваць члена Устаноўчага Сойму, абыскаць яго памешканьне, і яго самога і кантраляваць яго карэспандэнцыю можна толькі з згоды Устаноўчага Сойму.

VII.

18. Гэтая канстытуцыя і ўсе законы уступаюць у законную моц з дня іх апублікаваньня у ўрадавым органе.

Старшыня Сойму **Аўгусьцін Стульгінскі.**

Сэкрэтар **Уладыслаў Н атневіч.**

# Склад VI Габінэту.

19-го чэрвеня г, г. зложан VI-ты зпачатку Літоўскай Рэспублікі Габінэт Міністраў, так званы „Габінэт волі народа“.

У склад гэтаго Габінєту ўвайшлі:

1. Д-р Казімір Грынюс, Старшыня Рады Міністраў.
2. Д-р Язэп Пурыцкіс, Міністэр Замежных Спраў.
3. Р. Скіпіціс, Міністэр Унутрэных Спраў,
4. Эрнэст Гальваноўскіс, Міністэр Грашовых Спраў, Гандлю і Прамыслу і часова Міністэр Шляхоў.
5. Казімір Бізаўскас, Міністэр Прасьветы.
6, Іван Алекса, Міністэр Земляробство і Дзяржаўнай Маетнасьці.
7. Палкоўнік Канстанцін Жукас, Міністэр Краёвай Абароны.
8. Вінцэнты Каробліс, Міністэр Справядлівасьці
9. Дамінік Семашко, Міністэр Беларускіх Спраў
10. Д-р Макс Салавейчык, Міністэр Жыдоўскіх Спраў.

◆◆◆◆

# Военна палітычны абгляд

I.

**На пауночным фронце:** Чырвоная армія занімае лініьню: Нашэбашск на Пячорэ—Юромск на Мезене—м. Пінегу—м. Архангельск—м. Онегу і Мурманск. Палітычна-эканамічны малюнак краю невясёлы. Часьць населленьня сядзіць па турмам. Крэсьцьяне нічога не вывозяць на торг і выносяць рэзалюцыі, асуждаючыя савецкія парадкі. Больш усіх гаманяць аб недавольсьцьві работнікі, часьць якіх гвалтоўна вывезэна ў цэнтр, а якія асталіся, дык ня толькі не карыстаюцца прывілеямі правяшчага клясу але прымушаюцца да усіленай працы. Грошы папярэдняга Ураду ануліраваны, а савецкія не маюць ніякой менавой вартасьці, таму і гандлю ніякага німа, ды і гандляваць, як відаць, нечым, бо адразу, па прыхадзе савецкай улады, усе было вывезена ў Маскву і Пецявбург. Вывезены ўсе запасы спажыўнасьці, тавары, сырье, вугаль і т. п., вывезена, навэт, мэбэль, ня гледзючы на тое, што рух на чугунцэ надта ціхі. Улада на поўначы кепска слухае цэнтру, так, напрыклад; ідуць павальныя вобыскі, ня гледзючы на загады з Масквы іх ня робіць. Агульная думка жыхароў краю, што гэткі гоман с Савецкай Уладай немагчымы, што Паўночнай вобласьці угражае голад і што ў хуткім часе Савецкая Улада спыніцца.

**На Карэльскім фронце**—пад націскам бальшэвікоў Урад Усходняй Карэліі і яго войска перайшлі у Фінляндыю. Бальшөвікі праз граніцу абстрэлялі адступаўшых. Фінскі Урад паслаў Камісару Загранічных Спраў Чычэрыну тэлеграму з пратэстам проці паўзнаўленьня савецкім войскам „варожнай чыннасьці у Усходняй Карэліі“.

II.

**На Пецярбурскім фронце**—Чырвоная армія занімае лініьню Сестрарэцк-Белаостраў. Мірныя перэгаверы памеж Фінляндыей і Савецкай Расеяй зайшлі ў тупік. У тэрыторыяльным пытаньню абедзьве стараны стаяць на сваім. Варункі пераміръя, запрапанаваныя фінскай ўладай, залічэны савецкім урадам не да прыняцьця. Фінскія дэлегаты спадзяюцца на ўступку бальшэвікамі Печэнгі, Рэполы і Параярві. Па дадаўгавым абавязацельствам савецкіе делэгаты не адмаўляюцца ад прынцыпа ўзаемнай адпаведзяльнасьці, але па абавязацельствам Расеі гатовы адпаведаць у межах толькі савецкіх дэкрэтаў. Фінляндыя, па думцэ савецкіх дэлегатоў, павінна прыняць на сябе часьць ваенных расходаў за час ад 1914 да 1917 году.

III.

**У Эстонію-Рэвель** зьвярнуўся галава Эстонскай дэлегацыі ў Савецкай Расеі, на якой дэлегацыі ляжыць праца аб прызнаньні за пражываючымі ў Расеі эстонцамі праў грамадзянства Эстонскай Республікі. Праца з прэдстаўнікамі Савецкай Расеи пачкі немагчыма, дужа трудна знайсьці пункты сапрыкасноўчыя. У Пецябурзі і Маскве заявілі жаданьне прыняць Эстонскае грамадзянства звыш. 20.000 чэлавек, з якіх Савецкі Урад згадзіўся прыняць толькі 150 асоб. Сурьезная рознагалоснасьць ў пытаньню аб поддансьцьве пачкі не мінуема. Адносна да рускіх, жывучых у Эстоніі, дык сярод іх асоб, жадаючых на падставе мірнай ўмовы прыняць расейскае грамадзянства, не знайшлося сусім. У Рэвелі абнаружэна проціўрадавая арганізацыя рускіх рэакцыанэраў. Пры сапрацаўніцтве паліцыі спраўджэна, што група найболей чынных рускіх грамадзянскіх дзеячоў ў Рэвелі вяла станоўчую агітацыю проці Эстонскай Рэепублікі, як у межох, так і за межамі яе.

IV.

**На Латвійска-бальшевіцкім фронце**-баевая лініьня праходзе праз Скрудэліно-Каплаў-Бруно-па рэчцы Дрысе-м. Дрысу-Кахановічы; возера Осьвея-Позіны-Розэноўская-Ново- Пакроўская - Пыталова-Жогава. За працекшы час баявыя схваткі мелі мейсца к паўдню ад Дзьвіны у сяленьні Бруно, дзе бальшэвіцкая кавалерыя прайзвела атаку на латвійскую заставу і у раіоне Дрысы і Пыталова гурткі чырвоных разьведчыкаў былі раскіданы латвійскім куляметным агнём. Як палітычнае здарэньне дзяржаўнага Ураду у жыцьцю маладой латвійскай Рэспублікі трэба аднатаваць дымісыю толькі недаўна канстытунаванага Габінету Ульманіса.

Як меру, скіраваную проці распаўсюжываньня бальшэвіцкіх ідэй, ня можна не аднатаваць аўтодафэ бальшэвіцкай літэратуры. Ў Рызе закончэна сабіраньне і знічтажэньне астаўшагася бальшэвіцкага сукцэсу ў відзе бальшэвіцкай літэратуры і праклямацыяў. Літэратура гэтая была спалена ў прысутнасьці чыноўніка Міністэрства Унутраных Спраў. Зьніштажэньнем брашур, газэт і адозваў былі заняты 25 жаншчын у працягу вокала 3-х тыднеў. Колькасьць брашур, састаўленых у рожных мовах, залічывалася міллёнамі.

**Канфэрэнцыя Балтыцкіх Гаспадарстваў** собіраецца ў Рызе, на якой будуць прысутнымі дэлегаты Літвы, Эстоніі, Фінляндыі, Латвіі, Польшчы, і Румыніі. Мэтай Канфэрэнцыі зьяўляецца сазданьне хаўрусу і урэгуляваньне эканамічных пытаньняў, датычачых крэсавых гаспадарстваў.

V.

**На Літоуска-Бальшэвіцкім фронце** — Разгранічыцельная лініьня праходзе праз Сьвенцяку, Ново-Трокі, Ораны і Городно. Баявых спатычек з бальшэвікамі ня было.

**На літоуска - польскай дэмаркацыйнай лініьні** палякі эвакуавалі цэлы сьцяг пасяленьняў, пазайманых у сьлед за тым літоўскім войскам. Пад уплывам сваіх катастрафічных паражкаў на бальшэвіцкам фронце, Польшча, наканец, знізайшла да прызнаньня Сойму і Ураду Літвы дэ-факто.

VI.

**Польска - бальшэвіцкі фронт праходзе:** праз Барановічы-Слонім-Пінск.

**На паудзенна-заходным фронце:** Ў Сарна-Ковельскім раіоне праз Рафалоўку-Дубно-Крэмэнец, у Валочынскім і Каменец - Падольскім районе - па рэчцы-Збруч.

Палякі прызналі сваё палажэньне на фронце вельмі сурьезным, таму у Польшчы абвешчэна агуловая мабілізацыя, бэз рожніцы нацыянальнасьці, ваенна-абавязаных усіх радоў аружжа з 1885 да 1902 году. У Польшчы абраджываецца, навэт, пытаньне аб магчымасьці эвакуацыі часьці Ўсходняй Галіцыі, бо конным масам Будзёнага, ўзноў прарваўшым фронт палякоў ў Стараканстантынава, адкрыта кароткая дарога ў Ўсходняю Галіцыю Старараканстантынаў-Збруч (перагон у 75 верстаў).

VII.

**На паудзенна - заходнім фронце румынскіх войскау,** баронячых заходні берэг Днестру і Бесарабію, ваенна-палітычнае станавішчэ неколькі зьмянілася. Румынскі Урад абвесьціў мабілізацыю, пры чым вызываюцца навэт румынскіе падданыя, знайходзячыяся за граніцай. Мабілізацыя абвешчэна з прычыны наступленьня чырвонай арміі. Ў зьвязку з мабілізацыей, ў Румынію прыбыў параход з Францыі з ваенным матэрыялам, а таксама французская ваенная місыя, ў складзе 10 асоб.

VIII.

**На паудзенным фронце на Украіне** — нацыянальнае украінскае войска, пад камандай Паўленкі і Ўдовічэнкі, прамеж Днестрам і Бугам, абязпечывала з флангу адходзячую к паўночы ад гэтага району польскую армію. Украінскія часьці пры гэтым рабілі контр-наступленьня проці наступаючых бальшэвікоў ў Магілева-Падольскага і больш на заход Летычева. Урад Петлюры пераехаў з Жмерынкі ў Праскураў, а некаторыя Міністэрства сызнова памясьціліся ў Каменец-Падольскім.

IX.

**На Крымском фронце**

У Крыме народная армія гэнэрала Врангеля за працекшы час дабілася вялікіх усьпехаў, высунуўшы свой фронт на лініьню Бэрдзянск - Александроўск на Дняпру, упіраючы флангі: правы-ў Азоўскае морэ. а левы-ў балоцістую і шырокую даліну ніжняга Дняпра. Новы фронт занімае працяг на 150 верстаў. Прадзвіжэньне гэнэрала Врангеля ўпярод, захапіўшага тэрыторыю, роўную па абшырнасьці Крыму, аддае ў яго рукі вобласьць, багатую іменна тым, чато не хапала Таўрыцкай паўвысьпе, гэта значэ: хлеба, мяса і навэт вугальля (у Мэлітопольскім районе).

**Ваенна-палітычнае палажэньне у Закауказье,** ў зьвязку а заняцьцем бальшэвікамі Баку і Рэжта і прадзьвіжэньнем іх у бок Таўрызы і Тэгэрану, а таксама з прычыны эвакуацыі янгелікамі Батума, прэдстаўляе асобную цікавасьць. Тут мы спатыкаемся з гэтяімі дзяржаўнымі абъявамі:- 1) Азербэйджанскай Рэспублікай, рашчапіўшэйся на 2 цэнтры—бальшэвіцкі ў Баку і антыбальшэвіцкі, эвакуаваўшыся ў бок Елізаветполю, 2) Арменіей угражаемай з усіх бакоў і 3) Грузыей, На тэрыторыі гэтых уэспублік, акрамя іх ўласных сіл, маюць чыннасьць: зпаўдня-турэцкая, а на паўночы і ўсходзе чырвоная армія, знайходзячыяся памеж сабой ў пэўнай зьвязі. Да апошняго часу ўсе гэтыя тры гаспадарства знайходзіліся паміж сабой ў варажных стасунках, якія цяпеу быццам зьмяніліся к лепшаму. Армія старага Азэрбэйджану, г. з. ураду Мэкмандарова, націскаўшая на Армэнію, цяпер зьвярнулася проці Баку, г. з. проці савэцкай Азэрбэйджанскай рэспублікі. З другога боку Грузія, афіцыяльна падпісаўшея мірную умову з бальшэвікамі, на самам дзеле мае ўвесь час спатычкі с Савецкай Расеяй. Найбольш труднае становішчэ Армэніі, якая кінута самой сабе і мае фронт як у бок Азэрбэйджану, так і на поўдзень, дзе ей угражаюць дзьве турэцкія арміі; адна—Халім-Пашы з керунку на Нахічэвань і Эрывань і другая—Пуры-Пашы (вокала Олты), таксама угражаючая цяпер і Грузыі, і Армэніі. Такім чынам труднасьць становішча Закаўказкіх Рэспублік відаць сама сабой. Калі яшчэ ўспомніць далека ня згодныя адносіны іх памеж сабой, ўнасіўшыя вялікую запутаннасьць ў палітычную абстанову на Каўказі, то будзе падстава усамніцца ў прочнасьці гэтых дзяржаўных аб'яваў.

**Палітычнае Становішчэ на Дальнем усходзе** прэдстаўляецца гэткім чынам: Ў Ўсходняй Сібіры стварылася 4 рускіх Урады; 1) Ў Верхнеўдзінску-бальшэвіцкае з Краснашчокавым, 2] ў Чыце-белагвардзейскае з Сямёнавым, 3) ў Харбіне - белагвардзейскае з Хорватам, 4] ў Владывастоку - эсероўскае з Мядзьведзявым у главе. З усіх гэтых урадаў Японія актыўна падтрымывае толькі Хорвата і Сямёнава, армія якога січас рэарганізуецца і папаўняецца пад камандаваньнем гэнэрала Рефэйкі-замясьціцеля гэнэрала Воўнехоўскага; Гэнэрал Болдыроў, камандуючы войскам Владывастоцкага Ураду, з невялікім атрадам ахраняе Прыморскую вобласьць.

Ваенае станавішчє на Дальнем Усходзе бяз перамен.

Х. Ш.

◆◆◆

# Тэлеграмы:

КОЎНА 15. 7. Па мірнай ўмове, завартай 12 гэтага ліпеня Літоўскім Урадам з Савецкай Расеяй, тэрыторыяльныя граніцы Літвы апрэдзелены меньш-больш гэткія: Граніца праходзе ад Заходняй Дзьвіны праз Дрывяцкае возера, возера Нароч на Маладзечну, па Бярэзіне на заход да Нёману, па Нёману праз Горадно і акрэснасьці Аўгустова. У склад Літвы уходзяць таксама Вільня, Городно, Ашмена і Ліда.

КОЎНА 15. 7. Па саабшчэньноі „Летува“ літоўскі Прэдстаўнік на Канферэнцыі ў Спаа паведамляе, што хаўрусныя дзяржавы рэшылі прызнаць літоўскую Дзяуржвау „дэ-юрэ“. Апавешчэньне гэтага рэшэньня пасьледуе ў хуткім часе ў Лёндане.

АМСТЭРДАМ. 17. 7. „Івнінгнюс“ апублікоўвае толькі што атрыманую з Варшавы тэлеграму ад Польскай Рады нацыянальнай Абароны, ў якой польскі ўрад дае сваю згоду на упрапанаваные Ллойд-Джвржэм варункі пераміръя.

Весткі Гэнэральнага Штабу ад 21. 7. 20.

У згодзе з камандуючым расейскай чырвонай арміі установлена асобая дэмаркацыйная лініьня, адмяжовываючая расейскае войска ад літоўскага.

Лініьня йдзе праз Нова-Сьвенцяны, Новыя-Трокі і Городно. Гэту лініьню займае і абараняе літоўскае войска.

БЭРЛІН. 21. 7. 20. У сёньнешнім нумеру газэты „Рейхсанцайгер“ ёсьць апавешчэньне нямецкага ураду аб датрыманьні з боку Нямеччыны у руска-польскай вайне поўнага нэйтралітэту. Гэты урадовы указ падпісан Прэзыдэнтам Рэспублікі Эбертом і Міністрам Закардоных Спраў Сімонсом.

КОЎНА. 26, 7. 20. Па весткам з Варшавы, там стварыўся новы Габінэт Міністраў коаліцыйнага характэру. Ў склад Габінэту ўходзяць; Вітош—Старшыня Габінэту, князь Сапега—міністэр закордоных спраў, Грабскі—міністэр унутреных спраў і Скульскі—міністэр гандлю і прамыслу.

Весткі Гэнеральнага Штабу ад 27. 7. 20.

На фронці бяз перамен. Рускае войска у занятых імі вобласьцях агрэбае і абіжае населеньне.

Гэн.-Лейт. Катхэ.

КОЎНА. 27. 7. 20. У Рыгу прыбыла асобная дэлегацыя Літоўскага Ураду пад Старшынствам члена Сойму Нарушэвіча. Дэлегацыі належэ ў перэгаворах з Предстаўніком Савецкага Ураду Іоффе выясьніць станавішчэ занятай савецкім войскам тэрыторыі Літвы, трэбуючы няўмешацельства расейскіх ваеных улад у сфэру цывільнай Улады Літоўскай Рэспублікі, ня чыніць рэквізыцыяй за забраныя харчы плаціць гатовымі грошамі. Апрыч гэтага на дэлэгацыю наложэн абавязак выясьніць, чы запраўды рассейскаму войску па стратэгічным паглядам бязпрыменна патрэбна і далей аставацца у Вільні ў прэдзелах Літвы.

КОЎНА. 28. 7. Радзіо з Варшавы саабшчае, што заўтра, ў 20 гадзіне дня, назначэна першая сустрэча памеж упаўнаважаных польскай і рускай арміяў па дарозе ад Баранавіч на Ляхоўцы дзеля перэгавораў аб перэміры.

Выдавецтва і рэдакцыя: Стол Друку Міністэрства Беларускіх Спраў. Коўна, Вуліца Адама Міцкевіча, 13а.

ДРУКАРНЯ А. БАКА і Х. МАНКЕСА, КОЎНА.